

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА ШУМІЛІНШЧЫНЫ

# СЬВІТАНАК

*Беларусь, твой народ дачакаецца Залацістага, яснага дня! М. Багдановіч.*

№ 17 (129), СНЕЖАНЬ 2011 ГОДА

**http://haradok.belarda.org - сайт нашага рэгіёна**


**ПОГЛЯД РЭДАКТАРА**

# КАБ НЕ АДВЫКЛІ АД НАЧАЛЬСТВА

**Новы кіраўнік раёна Уладзімір Куранны падчас падворнага абходу азнаёміўся з інфраструктурай Светласельскага сельсавета. Старшыня райвыканкама быў нямала здзіўлены, калі на прыём па асабістых пытаннях да яго прыйшло шмат людзей. Аднак людзі, якія ўжо прывыклі рэдка бачыць начальства, зноў наважыліся напомніць пра жыццёва важныя для іх праблемы, якія не былі своечасова вырашаны на месцах.**

Адказныя асобы Шумілінскага райвыканкама выехалі з кабінетаў і на працягу трох дзён праводзілі аб'езд тэрыторыі Светласельскага сельвыканкама. Пры гэтым асаблівую ўвагу кіраўніцтва раёна ўдзяляла сацыяльна-культурным аб'ектам.

Наогул, падобныя адміністратыўныя працэдуры праводзіліся і раней. Прычым сістэма работы была больш скіравана на справаздачу падначаленых, а не на рэальную працу з насельніцтвам. І хаця з насельніцтвам праводзіліся гэтак званыя дні інфармавання, карысці , аднак, ад іх было нямнога.

Не далі належнага эфекту і сустрэчы прапагандысцкіх груп з працоўнымі калектывамі, прыёмы грамадзян у населеных пунктах. Як правіла, кіраўнікам інфармацыйна-прапагандысцкай групы заставалася больш нічога, як выслухаць скаргі грамадзян, прызнаваць чыесьці праліkі і "браць на кантроль" няварашанае пытане.

Менавіта таму перад аб'ездам тэрыторыі сельсавета кіраўніцтва раёна правяло прыём грамадзян. І зусім не выпадкова, што да новага старшыні райвыканкама Уладзіміра Куранннога звярнулася нашмат болей народу, чым да яго папярэдніка Вальдэмара Падляшчука. Як высветлілася, амаль усе пытанні былі не вырашаны на першасным узроўні. Несумненна, што гэта як раз відавочны паказчык бездапаможнасці органаў мясцовага самакіравання.

Першым аб'ектам наведвання быў сельскі клуб у Лескавічах. Прывабны выгляд пасля капітальнага рамонту, тэрыторыя дагледжана. А вось каля Башнеўскага сельскага клуба Генадзь Куранны заўважыў няскошанае пустазелле. Няўжо кіраўнік раёна асабіста павінен напамінаць мясцовым начальнікам, каб яго скасілі? Не спадабаліся кіраўніку вертыкалі і цёмныя, недагледжаныя вуліцы, старыя спарахнелыя агароджы.

Наступны візіт быў у вёску Язвіна. Тут выявілі адсутнасць кантэйнераў па зборы смецця. Пасля чаго адразу паступіла даручэнне кіраўніцтву жыллёва-камунальнай гаспадаркі. Але напэўна, новаму кіраўніку раёна яшчэ не далажылі, што такіх кантэйнераў няма ў большасці населеных пунктаў, а кантэйнеравозаў усяго два. Хіба што хапае абслужыць Шуміліна і часткова горпасёлак Обаль. Астатнія прыбіраюць смецце дзедаўскім спосабам: грузяць на трактар і вязуць на міні-палігоны. А калі быць дакладней, то ў бліжэйшы хмызняк. Балазе, былы кіраўнік раёна не ставіў задачу ахапіць усё насельніцтва раёна арганізаваным вывазам смецця на дагаварной аснове са службай УП ЖКГ. Як пакуль не вялася гаворка пра ліквідацыю стыхійных смеццязвалак і пры новым вертыкальшчыку.

У час падворнага абходу былі ўзняты праблемы навучальных устаноў. Вядома, што без дапамогі рэальных спонсараў школы не змогуць даць дзецям якаснай адукацыі. Насамрэч бюджэтных сродкаў укладзена недастаткова, а спонсары ў большасці выпадкаў чамусьці не знаходзяцца.

Падводзячы вынікі аб'езду, кіраўнік раёна выказаў меркаванне наконт працы сельсаветаў. На яго думку, пры кожным сельсавеце неабходна мець па два-тры трактары і прычапны інвентар да іх. Сельгастэхніка таксама павінна аказваць дапамогу прыватнікам у нарыхтоўцы кармоў, зборы ўраджаю. Такая дапамога з боку сельвыканкамаў магла б заахвоціць вяскоўцаў трымаць больш жывёлы на ўласным падворку.

Як працуе мясцовая ўлада, такі і настрой у людзей. Ідэолагі і прапагандысты праз тэлебачанне, радыё, прэсу штодзённа трубяць аб тым, што ўлада не спіць, не есць, а толькі думае пра тое, як забяспечыць камфортнае жыццё грамадзянам. Час на месцы не стаіць, і пэўныя перамены адбыліся. Але ці ў лепшы бок? Калі асэнсаваць жыццё жыхароў раёна цалкам, дык што змянілася з савецкіх часоў, калі раёнам кіраваў райкам партыі камуністаў?

Цяперашні рэжым фактычна карыстаецца матэрыяльнай базай 80-х гадоў. І абсталяванне, і умовы працы, і заробкі застаюцца такімі, якія і 30 гадоў назад. Што тычыцца чалавечых адносін да працаўнікоў з боку начальства, дык усе спецыялісты, з якімі даволася паразмаўляць, кажуць, што яны ў параўнанні з савецкім часам пагоршыліся. Пануе дыктат, культ асобы, камандны стыль кіраўніцтва. Ніякога цывілізаванага дыялогу ў прынцыпе рашэнняў, усе запалоханы і баяцца запярэчыць начальству па самых дробязных пытаннях. Адсюль і высокая цякучасць кадраў.

Сёння ўсе дэпутаты і чыноўнікі залежаць у раёне залежаць не ад народа, а толькі ад галоўнага вертыкальшчыка, якому абавязаны сваім прызначэннем. Таму яны і моляцца толькі на яго, яму і дагаджаюць. Бо ад гэтага залежыць іх дабрабыт. А пра народ успамінаюць хіба што перад выбарамі.

**Аляксандр Шчамлёў.**

**ЖЫВІ ЯК ГАСПАДАР**

# Прадпісанні не выконваюцца

**Яшчэ ў траўні раённыя ўрачы-гігіеністы падчас праверкі сельгаспрадпрыемстваў выявілі шматлікія парушэнні. Былі выдадзены прадпісанні аб ліквідацыі парушэнняў. Аднак паўторны рэйд у лістападзе паказаў, што кіраўнікі прадпрыемстваў ніякіх мер па ліквідацыі выяўленых парушэнняў зноў не прынялі.**

У працэсе чарговага рэйду па кантролі санітарнага стану гаспадарчых аб'ектаў работнікі Шумілінскага Цэнтра гігіены і эпідэміялогіі наведалі малочна-таварныя фермы раёна. Як высветлілася, станоўчых зрухаў так і не было. Да прыкладу, у калгасе "Прыдзвінскі" няма дэзінфіцыруючых сродкаў для мыцця абсталявання на фермах Гаравыя і Свярдлы. Пра якую якасць малака тады можна наогул гаварыць? У санітарна-бытавых памяшканнях холадна, паўсюды бруд, а спецадзенне не вымыта. На некаторых фермах няспраўнае халадзільнае абсталяванне.

Узніклі праблемы па ўтрыманні артэзіянскіх свідравін, якія сілкуюць не толькі і фермы, але і маленькія вёскі. Санітарны дабрабыт гэтых аб'ектаў таксама не змяніўся да лепшага. Сёлетняй вясною былі выдадзены прадпісанні аб парушэннях санітарна-гігіенічных нормаў на свідравінах у вёсках Зямцы, Падмішнеўе і Мосарава. Цяпер паводле пастановы санітарнага ўрача кіраўніцтву саўгаса "Сіроцінскі" загадана ліквідаваць парушэнні да пачатку 2012 года.

Безумоўна, рэйдавыя праверкі супрацоўнікаў раённай сансілужбы дазваляюць заўважыць негатыўнае і сабраць інфармацыю аб фактах безгаспадарчасці. Але ці спрыяюць яны выпраўленню сітуацыі рэвальна, а не на паперы?

За нездавальняючае ўтрыманне гаспадарчых аб'ектаў і тэрыторыі супрацоўнікі Цэнтра гігіены і эпідэміялогіі складаюць пратаколы, накладваюць штрафныя санкцыі. Усяго за год былі пакараны 13 спецыялістаў з гаспадарак "Мішнявічы", Сіроцінскі", "Прыдзвінскі", "Ляжні" і іншых. Як заўсёды, вінаватых знайшлі. Але ці справядлівае патрабаванне да тэхнолага, які не можа забяспечыць чысціню на фермах, калі гаспадарка банкрут і не ў стане купіць нават мыючыя сродкі?

**Я. Вайтовіч.**

**ЭКАНАМІЧНЫ КРЫЗІС**

# ЗНІКЛА "САЦЫЯЛЬНАЕ" МАЛАКО

**Кіраўніцтва краіны запэўнівае, што ўсе малаказаводы стабільна забяспечваюць пастаўкі малака ў гандлёвыя кропкі. Аднак у апошні час як па ўсёй краіне,так і ў Шуміліне людзі скардзяцца што гэтага прадукту мала. З паліцаў шумілінскіх крамаў амаль знікла гэтак званае "сацыяльнае малако".**

23 снежня на прэс-канферэнцыі ў Нацыянальнай бібліятэцы кіраўнік дзяржавы Аляксандр Лукашэнка заявіў, што "наступны год будзе лягчэй". Пры гэтым дадаў, што дзякуючы яго намаганням ужо спынены рост цэн на некаторыя віды прадукцыі. Верагодна, Аляксандр Рыгоравіч меў на ўвазе сацыяльна значныя тавары, кошты на якія рэгулюе Мінэканомікі. У пералік такіх тавараў увайшло 27 тавар-ных пазіцый: крупы, цукар, хлеб і іншыя, у тым ліку і малако. Малаком па фіксаваным кошце лічыцца пакет за 3,2% тлустасці за 2180 рублёў.

Так, бесперабойныя пастаўкі малака ў магазіны наладзілі, дэфіцыту няма. Але ж куды падзелася "сацыяльнае малако"? Заўважана, як некаторыя шумілінцы займаюць чаргу за малаком з раніцы, якое завозяць у цэнтральны універсам. Прычым людзі стаяць за танным малаком, якога з кожным завозам становіцца ўсё меней. Пакупнікі хвалююцца, што яно знікне зусім – разам з дзесяткам пакетаў "сацыяльнага" малака прывозяць каля сотні даражэйшага, якое каштуе ўжо 4400 – 5200 рублёў. Ёсць сведчанні, што іншым разам даходзіць да скандалаў з прадаўцамі – людзі падазраюць, нібыта яны прыхоўваюць тавар на складзе.

Людзям цяжка зразумець, чаму аднолькава ўпакаваныя пакеты малака і з аднаго завозу адрозніваюцца па цане ўдвая, а то і больш. Ды і тлустасці ў яго не такая істотная розніца— 3,2% і 3,6%. Ці ўзяць напрыклад, смятану— пры тлустасці 25% яна ўдвая танней за тую, дзе на пакеце значыцца 26%.

Насамрэч вытворцы малака проста знайшлі спосаб, як абыйсці забарону ўрада па павышэнні кошту малака. Бо інакш малаказаводу не выжыць – вытворчасць малака па фіксаванай цане не апраўдвае панесеных затрат. А прадпрыемству яшчэ патрэбна плаціць падаткі, працуючым выдаваць зарплату, развівацца на перспектыву. Сацыяльна значную прадукцыю пастаўляць нявыгадна, таму нават за тыя нязначныя надбаўленыя працэнты тлустасці ўстанавілі рэальную цану на прадукцыю. Пакет малака па 5 тысяч ці смятаны па 8 тысяч – гэты фактычна рыначныя цэны. Як быццам неабгрунтаванага завышэння цэн тут няма.

Аналагічная сітуацыя склалася ва ўсіх магазінах Шумілінскага райспажыўтаварыства. З усяго вынікае, што спробы ўраду камандными метадамі рэгуляваць экономіку праваліліся з самага пачатку. Рэальныя рыначныя цэны ўсё роўна растуць, нягледзячы на папуліскія дэкрэты кіраўніка дзяржавы. Выходзіць так, што яго забароны па павышэнні цэнаў каштуюць столькі ж, колькі і словы пра стабільнасць у дзяржаве.

**Алесь Шумскі.**

## "СВІТАНАК" У ІНТЭРНЭЦЕ

**Наша газета стала размяшчаецца на партале *http://kamunikat.org/*, дзе зацікаўленыя грамадзяне могуць яе спампаваць са старонкі: *http://kamunikat.org/svitanak.html*, што у каталагу "Пэрыёдыка" для далейшага выкарыстання яшчэ да з'яўлення газеты на паперы.**

## АБ'ЯВА

- ***Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Світанак» паведаміце рэдакцыі аб гэтым – зрабіце бесплатную падпіску. Калі не жадаеце атрымліваць газету, то таксама патэлефануйце.***
- ***Рэдакцыя «Світанка» змяшчае бясплатныя абвес-ткі чытачоў выдання. Дзеля размяшчэння абвесткі патэлефануйце ў рэдакцыю.***
- ***Калі парушаны вашы правы спажыўца, працаўніка, то даем эфектыўныя парады па абароне права і пошуку бясплатных юрыстаў. Звяртайцеся на адрас газеты «Світанка».***
- ***Рэдакцыя запрашае да супрацоўніцтва неабыякавых грамадзян. Вашы навіны, паведамленні – нашая падзяка. Словам, сувенірам.***

ШКОЛЬНАЕ ХАРЧАВАННЕ

# Несбалансаванае харчаванне падрывае здароўе школьнікаў

**Як накарміць, каб вызначэнні "рацыянальна", "сытна" і "нядорага" спалучыліся ў адным простым – якаснае харчаванне дзяцей? Аб арганізацыі здаровага ладу жыцця ў школах і дзіцячых садках ішла размова на апошнім пасяджэнні кіраўнікоў адукацыйных устаноў. Шумілінскія медыкі і настаўнікі занепакоены пагаршэннем стану здароўя дзяцей.**

Па выніках медыцынскіх аглядаў у школах раёна зменшылася колькасць вучняў з першай групай здароўя. Менавіта такія дзеці займаюцца фізкультурай у асноўнай групе. Больш таго, узрасла захворваемасць выхаванцаў у дзіцячых садках (з 3,5 дня ў 2010 годзе да 5,2 дня сёлета.)

Збалансаванае і рэгулярнае харчаванне — не толькі ўплывовы складальнік здароўя, але і ўмова для паспяховай вучобы. Медыкі-педыятры сцвярджаюць: адной з прычын пагаршэння здароўя дзяцей можа быць няправільная арганізацыя іх харчавання.

У вырашэнні дадзенай праблемы многае, зразумела, залежыць ад бацькоў. Разам з тым вялікая нагрузка кладзецца і на школу, асабліва калі ўлічыць, што патрабаванне кіраўніцтва Беларусі ў гэтым сэнсе адназначнае: у навучальных установах дзеці павінны харчавацца якасна і карысна ежай.

Пра арганізацыю харчавання школьнікаў паведаміла галоўны спецыяліст аддзела адукацыі Кацярына Галуза. Даныя сведчаць аб тым, што ахоп дзяцей гарачым харчаваннем складае па раёну 99,1%. Раней парадак датацыі на харчаванне складаў 5% ад базавай велічыні. Нормы дзяржаўнай фінансавай дапамогі былі зацверджаны яшчэ ў лютым 2011 году і з таго часу не змяняліся. У апошні час сума кампенсацыі складала 1750 рублёў на адно дзіця, што пражывае ў сельскіх населеных пунктах.

Дзякуючы фінансавай палітыцы ўраду і гэта сціплая дзярждатацыя на харчаванне абясцэнілася. Таму трэба дадаць, якасць і кошт харчавання ў многім залежыць яшчэ ад таго, як папрацаваў ўлетку і восенню калектыў школы – настаўнікі і вучні – на нарыхтоўцы гародніны, садавіны, бульбы і г. д.

У гэтым сэнсе ўсімі школамі раёна кожны год робіцца многае. Многія навучальныя ўстановы маюць свае агароды і, дзякуючы ім, назапашваюць вітамінную прадукцыю.

Сёлета шумілінскія школы назапасілі для дзіцячага харчавання 46,9 тоны бульбы, 39,2 тоны гародніны. Асабліва пастараліся на прышкольных участках у Обальскай, Мішнявіцкай, Навікоўскай і іншых школах.

А ці задаволены якасцю абедаў самі вучні? У гэтым выпадку нельга меркаваць толькі па тым, калі работы пакідаюць пасля сябе пустыя талеркі. Праверкі паказваюць, што шмат дзе ёсць факты выкарыстання пратэрмінаваных прадуктаў. Так, дзеці маюць магчымасць сілкавацца гарачай стравай. Але ў многіх школьных сталоўках часта бывае занадта сціплы асартымент страў, асабліва калі на гарнір праз дзень падаюць адны макароны ды бульбу.

Адпаведна і ў дзіцячых садках. Разліўкі паказваюць, што колькасць макаронаў у меню зашкальвае аж да 159%-238%, бульбы – на 37%, малочныя прадукты складаюць 15%-21,5%. Да таго ж абсталяванне ў сталоўках і харчблоках састарэла і не адпавядае патрабаванням часу. Неабходна мадэрнізацыя матэрыяльна-тэхнічнай базы. Аднак гэта плануюць на 2012 год, у тым выпадку калі знойдуць грошы або спонсара.

Свімі дасягненнямі ў плане фізкультурна-аздараўленчай працы чыноўнікі лічаць паляпшэнне матэрыяльнай базы для заняткаў фізкультурай. І сапраўды, база "ўзмацнілася" – на сённяшні дзень забяспечанасць спартыўным школьным інвентаром па раёне складае 62%, а ў сельскіх школах усяго толькі 54,1 %.

**Алесь Прыбярэжны.**

ТЭАТРАЛЬНЫЯ НАВІНЫ

# НОВЫ ГОД У "ЛЯЛЬЦЫ"

**У Беларускім тэатры "Лялька" распачаліся традыцыйныя навагоднія праграмы для дзяцей, якія будуць падтрымліваць святочны настрой віцяблянаў да 15 студзеня 2012 года. Гэтым разам маленькіх гледачоў чакае спектакль "Навагоднія мары Слоніка", святочная латарэя і вясёлая дыскатэка ў фае тэатра з удзелам Дзеда Мароза, Снягуркі, цётухны Завеі і Слоніка.**

Нягледзячы на павелічэнне колькасці навагодніх імпрэз да 50 (у мінулым годзе было 38), білеты на свята гледачы раскупілі яшчэ ў сярэдзіне лістапада, літаральна за пяць дзён. Тым, хто паспеў, гарантаваны яркія ўражанні і выдатны настрой.

Дзеці змогуць паназіраць за прыгодамі Слоніка, Бегемоціхі, Страусіхі, Удава, Ляніўца і іншых экзатычных насельнікаў Афрыкі, дапамагчы ў зборы мёду для Дзеда Мароза. Самых удачлівых чакаюць падарункі, выйграныя ў латарэі, якую праводзіць фанабэрысты Павіян. Адным са спонсараў свята з'яўляецца кандытарская фабрыка "Віцьба", якая прапанавала для дэгустацыі сваю салодкую прадукцыю. Ну а пасля ўсе жадаючыя будуць гуляць, вадзіць карагоды і радасна скакаць каля ёлачкі, куды ўсіх запрашае гасцінная Завея. Тут, нарэшце, і спраўдзіцца навагодняя мара Слоніка — пабачыцца з Дзедам Марозам.

Адна з прыгожа ўбраных тэатральных ёлачак — зусім асаблівая. З яе пазіраюць зробленыя рукамі маленькіх гледачоў "Лялькі" анёлы — самыя цікавыя са 170 прац, прапанаваных дзецьмі для ўдзелу ў конкурсе "Мой анёлак", які тэатр праводзіць сумесна з газетамі "Звязда" і "Віцебскі праспект". Шкада, што елачка невялікая — не ўсім анёлкам хапіла месца.

Напярэдадні новага, 2012 года калектыў Беларускага тэатра "Лялька" не толькі дорыць, але і прымае падарункі. Нагрудным знакам "За ўклад у развіццё культуры Рэспублікі Беларусь" адзначаны вядучыя майстры сцэны — актрыса Вольга Корзун, што ў 1986 годзе першай была залічана ў віцебскую лялечную трупу, і акцёр Алег Рыхтэр, які на працягу многіх гадоў радуе гледачоў у абліччы Дзеда Мароза. Так што гэтым разам і сам Дзед Мароз без падарунку не застаўся.

Ганаровую грамату Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь атрымала Ганна Сідарава — мастак-пастаноўшчык, аўтар лялек і касцюмаў большасці пастановак "Лялькі". Падзякі міністра культуры Рэспублікі Беларусь знайшлі артыстаў Ганну Сцепанец, Наталлю Гайдук, Аляксея Макарскага, гукарэжысёра Ліну Даўгабародаву і намесніка дырэктара Таццяну Гурко. Увогуле ў юбілейным 2011 годзе (калі тэатр святкаваў сваё 25-годдзе) шмат хто з супрацоўнікаў атрымаў заслужанае прызнанне ў выглядзе разнастайных узнагарод. Будзьма спадзявацца, што і наступны год будзе спрыяльным як для калектыву "Лялькі", так і для яе ўдзячных гледачоў.

**Сабіна Радзько, "ННВ".**

КРЫМІНАЛ

# РЭЦЫДЫВІСТ СКРАЎ ДЗІЦЯЧУЮ КАЛЯСКУ

17 снежня ў Шумілінскі РАУС звярнулася мясцовая жыхарка, якая знаходзілася ў декрэтным адпачынку па доглядзе за дзіцём. Жанчына паведаміла, што навядомы злачынца з пад'езду дома па месцы жыхарства скраў дзіцячую каляску. Нанесена шкода каля 500 тысяч рублёў. Супрацоўнікамі аператыўна-следчай групы папярэдне ўстаноўлена, што злачынства ўчыніў непрацуючы, раней судзімы за крадзёж 1986 года нараджэння. Супраць яго ўзбуджана крымінальная справа па артыкуле 205 частка 2 КК.

# ПРАПАЛІ ГРОШЫ

25 студзеня ў міліцыю паступіла паведамленне ад жыхара райцэнтра аб тым, што ў яго прапалі грошы. Як высветлілася, мужчына распіваў спіртныя напоі ва ўласным гаражы з выпадковым знаёмым, пасля чаго не далічыўся аднаго мільёна рублёў. У ходзе следства выяўлена, што крадзёж учыніў рабочы, раней судзімы, 1968 года нараджэння. Па данаму факту заведзена крымінальная справа па артыкуле 205 частка 1 КК.

КНІГА СКАРГАЎ

# НЕЖЫЛЫ ФОНД?

**У вёсках раёна засталося нямала старых шматпавярховак, пабудаваных яшчэ за савецкім часам 30-40 гадоў таму. Многія поўнасцю закінутыя, але ёсць і такія, дзе сярод пустуючых кватэр засталіся па дзве-тры сям'і. Жыццё сярод занядбаных памяшканняў для некаторых насельнікаў ператварылася ў сапраўдны кашмар.**

Вось і ў вёсцы Язвіна больш за трыццаць гадоў стаіць шматпакутны дом № 5 па вуліцы Цэнтральнай. Гаспадыня кватэры №2 стамілася скардзіцца ў розныя інстанцыі на невыносныя бытавыя ўмовы пражывання. У трох суседніх кватэрах, што пустуюць у доме № 5 ніхто не жыве ўжо некалькі гадоў. Сумежныя кватэры разбураюцца, у пакоях даўно "прапісалася" вільгаць. Сёння тут гуляе зімовы вецер праз выбітыя шыбы, аблезлыя шэрыя сцены патыхаюць смуродам.

Дбайныя гаспадары ведаюць: і года пуставання хопіць, каб дыхтоўны будынак ператварыўся ў закінутую халупу і стаў прытонам для мясцовых п'янчуг. І гэта двухпавярхоўка ў Язвіне не стала выключэннем. Дом № 5 знаходзіцца на балансе камунгасу. Нехта ж павінен сачыць за парадкам, прыбіраць смецце, замыкаць пустуючыя кватэры і забіваць вокны. Але гэта нікому не патрэбна, акрамя адной гаспадыні, якая вымушана выконваць чужыя абавязкі. У той час, як за недагляд камунальнікаў і мясцовай гаспадаркі за жылым фондам павінны расплочвацца ні ў чым не вінаватыя людзі. У прыватнасці, жанчына з кватэры № 2 не можа абагрэць сваю кватэру. Топіцца дзве печкі, а сцены ўсё роўна халодныя і сырыя – сумежная кватэра забірае цяпло. Многа непрыемнасцей дастаўляе і падвал, які пастаянна залівае каналізацыйнымі сцёкамі. Тут таксама патрэбен рамонт, які, па ўсяму відаць, рабіць не спяшаюцца.

На жаль, усё часцей нашаму позірку пападаюцца пустуючыя дамы і сядзібы, якіх даўно некранала рука чалавека. Балюча глядзець, як пусцее вёска, паміраюць старыя, а моладзь з'язджае. Пажылыя жыхары, большасць з іх – жанчыны, жывуць у адзіноце. Нярэдка адчуваеш жах, калі чуеш навіны аб здарэннях, забойствах. Але ж вёска Язвіна знаходзіцца не ўдалечыні ад вялікіх гарадоў, да Віцебска ўсяго каля 30 кіламетраў. Побач чыгунка, а каля двухпавярховак праходзіць траса Віцебск-Полацк. Некалі вяскоўцам абяцалі будаўніцтва аграгарадка, газіфікацыю, абнаўленне старога жылога фонду. Але планы засталіся на паперы.

Дарэчы, паводле даных Міністэрста юстыцыі у беларускіх вёсках зараз налічваецца каля 60 тысяч пакінутых жыллёвых памяшканняў і будынкаў. Многія з іх ужо непрыгодныя для жылля, але знаходзяцца на балансе мясцовых органаў улады і жыллёва-камунальнай гаспадаркі. Каб навесці парадак у занядбаным жылым фондзе, патрэбны вялікія грошы на рамонтныя работы, якія заўсёды не хапае.

**У. Амбросаў.**

ТЭРЫТОРЫЯ ДАБРА

# ДА СТАРЭЙШЫХ ВАЛАНЦЁРАЎ ДАЛУЧЫЛІСЯ МАЛАДЫЯ

**Шумілінская моладзь імкнецца захаваць традыцыі папярэднікаў. Калі год таму ў вёсцы Мікалаёва стартаваў міні-праект "Міласэрднасць", у ім удзельнічала сем вяскоўцаў сталага веку. Цяпер суполка валанцёраў налічвае 12 чалавек, у радах якой працуюць і старшакласнікі мясцовай школы.**

Кажуць, што міласэрднасць – гэта адзін з паказчыкаў развіцця грамадства. Але на жаль, у нашым раёне не так і многа людзей, якія б з ахвотай дапамагалі тым, хто мае ў гэтым патрэбу.

Некаторыя лічаць, што бездапаможным належную падтрымку аказвае дзяржава. Ствараюцца адмысловыя фонды, ладзяцца дабрачынныя мерапрыемствы і аукцыёны. Аднак яшчэ задоўга да праекта "Міласэрднасць", які быў арганізаваны па ініцыятыве абласной арганізацыі Чырвонага Крыжа, жыхары Мікалаёва самі дапамагалі нямоглым суседзям, адзінокім старым аднавяскоўцам. Усяго некалькі чалавек абслугоўвалі пажылых людзей, якія апынуліся ў складанай жыцёвай сітуацыі.

Неўзабаве колькасць падапечных павялічылася. Тады і былі аб'яднаны валанцёрскія ініцыятывы актыўных людзей у праект з дапамогай адказных работнікаў таварыства Чырвонага Крыжа. Кіраўніком праекту прызначылі Фаіну Бізунову. Пасля чаго да суполкі сталі далучацца ўсё новыя людзі. Разам са старэйшымі апекунамі на дапамогу падапечным прыйшла і моладзь. Упершыню дабрачыннай дзейнасцю стала займацца і Кацярына Іспянькова, адзінаццацікласніца Кардонскай школы.

На рахунку мікалаёўскіх валанцёраў багата добрых спраў. Яны абслугоўваюць больш за дваццаць сем'яў не толькі ў Мікалаёве, але і ў Кардоне, Гусінцах, Андрэеве. У старых не хапае сіл на на элементарныя рэчы, таму трэба рабіць уборку кватэры, набываць прадукты ў магазіне, мыць падлогу, расчышчаць двор ад снегу.

Добра, калі ў пажылога чалавека ёсць дзеці і ўнукі, гатовыя прыйсці на дапамогу. А што рабіць старым, якія па волі лёсу засталіся адны? Валанцёры становяцца для адзінокіх пажылых, ветэранаў вайны, інвалідаў не толькі памочнікамі ў хатніх справах, але і лепшымі сябрамі, блізкімі людзьмі.

Акрамя таго, добраахвотнікі з'яўляюцца ініцыятарамі сацыяльных акцый. Так, летась разбіралі завалы на грамадзянскіх могілках. Да гэтай справы суполкі актыўна далучылася ўся вёска. Па-за ўвагай не застаюцца і вясковыя пенсіянеры, якім прооста патрэбна аказаць паслугі ў гаспадарцы. Няхай сабе і за грошы, аднак ці лёгка зараз знайсці рабочых, каб напрыклад, распілаваць дровы ў аддаленых вёсках, дзе не засталося працаздольных?

Для працы валанцёры мелі ўласную бензапілу, а нядаўна ад нямецкіх і швейцарскіх спонсараў атрымалі новую газонакасілку.

Вясковыя валанцёры праводзяць акцыі міласэрднасці і ў мясцовай бальніцы. Сіламі суполкі ставяць канцэрты для хворых у святочныя дні, раздаюць сувеніры.

Увогуле, як адзначаюць у Беларускім таварыстве Чырвонага Крыжа, у Беларусі доля асоб ва ўзросце 60 гадоў і больш летась склала 19%, больш за 700 тысяч чалавек — гэта адзінокія людзі і пажылыя людзі, якія жывуць адны, больш за 500 тысяч — інваліды.

Нагрузка і на дванаццаць мікалаёўскіх валанцёраў вялікая, таму праект "Міласэрднасць" працягваецца. Пры гэтым кожны можа стаць валанцёрам. Ёсць шанс зрабіць нечае жыццё лепшым.

**С. Горкі.**

МІЖНАРОДНАЯ САЛІДАРНАСЦЬ

# ЛІСТЫ БУША І ГАВЭЛА БЕЛАРУСКІМ ПАЛІТВЯЗЬНЯМ

НАПЯРЭДАДНІ КАЛЯДАЎ І НОВАГА ГОДУ БЫЛЫ ПРЭЗЫДЭНТ ЗША ДЖОРДЖ БУШ І ПРЭЗЫДЭНТ ЧЭХІІ ВАЦЛАЎ ГАВАЛ ДАСЛАЛІ ЗА КРАТЫ ЛІСТЫ БЕЛАРУСКІМ ПАЛІТВЯЗЬНЯМ.

"Напярэдадні Раства і Новага году я адпраўляю пасланьне міру і надзеі народу Беларусі.

Палітычным зьняволеным і іх сем»ям — Андрэю Саньнікаву, Міколу Статкевічу, Мікалаю Аўтуховічу, Зьміцеру Бандарэнку, Алесю Бяляцкаму, Зьміцеру Дашкевічу, Эдуарду Лобаву і Паўлу Севярынцу — я хачу выказаць сваё захапленьне вашай адданасцю будучай Беларусі, свабоднай і дэмакратычнай.

На мінулыя Каляды мы разам з вашымі шматлікімі прыхільнікамі чыталі імёны сотняў людзей, якія перамаглі страх і былі затрыманыя падчас пратэстаў супраць сфальшаваных выбараў. Хоць бальшыня была вызваленая, многія з вас застаюцца ізаляванымі ад вашых блізкіх і сяброў за вашыя мужныя ўчынкі дзеля свабоды.

На працягу гэтага году сьвет пабачыў нечаканы ўзыход свабоды ў Тунісе, Эгіпце і іншых краінах, якія, на думку шмат каго, былі несумяшчальныя са свабодай. Свабода — усеагульная, і прыдзе дзень, калі яна будзе зьзяць у самых змрочных кутках зямлі.

У гэты сьвяточны час вы мусіце ведаць, што пра вас не забыліся. Лора і я пасылаем нашыя віншаваньні вам і вашым сем»ям, і мы будзем думаць і маліцца пра вас.

Няхай вас блаславіць Бог, каб вы былі на свабодзе і разам з тымі, каго любіце, у 2012.

**Джордж Буш.**
**22 сьнежня 2011.**

**Вацлаў Гавал віншуе беларускіх палітвязьняў**

"Дарагія сябры. Хацеў бы сардэчна вас павіншаваць на парозе новага году і пажадаць вам і вашым блізкім, каб ён быў лепшым, чым мінулы. Выказваю салідарнасьць з вашай пазыцыяй і буду і надалей выкарыстоўваць усе магчымасьці, каб разам са сваімі сябрамі зьвяртаць увагу міжнароднай грамадзкасьці на парушэньне грамадзянскіх правоў у Беларусі.

Жадаю усяго добрага вам і свабоды вашай краіне.

**Вацлаў Гавэл.**
**Градэчэк, 15.12.2011".**



Reuters

НАША ЖЫЦЦЁ

# БЕЛАРУСАМ ДАВОДЗІЦЦА ЖЫЦЬ НА СТО ДАЛЯРАЎ У МЕСЯЦ

КРЫЗІСНЫЯ З'ЯВЫ Ў ЭКАНОМІЦЫ ПРАМЫМ ЧЫНАМ АДБІЛІСЯ НА ДАБРАБЫЦЕ НАСЕЛЬНІЦТВА. СТАТЫСТЫКА КАЖА АБ ТЫМ, ШТО ПРЫКЛАДНА ТРАЦІНА СУАЙЧЫННІКАЎ МОГУЦЬ ДАЗВОЛІЦЬ ВЫДАТКАВАЦЬ НА СЯБЕ Ў МЕСЯЦ НЕ БОЛЬШ ЗА 900 ТЫСЯЧ РУБЛЁЎ. У ЭКВІВАЛЕНЦЕ - КРЫХУ БОЛЬШ ЗА 100 ДОЛАРАЎ. НА ФОНЕ РОСТУ КОШТАЎ НЕСКЛАДАНА ЗРАЗУМЕЦЬ, ШТО ЯКАСЦЬ СПАЖЫВЕЦКІХ РАСХОДАЎ БЕЛАРУСКІХ СЕМ'ЯЎ КАРЭННЫМ ЧЫНАМ ЗМЯНІЛАСЯ.

**Бюджэт беларускіх сем'яў**

Даведацца пра тое, як змяняецца дабрабыт беларускіх сем'яў, дазваляе выбарачнае абследаванне хатніх гаспадарак, якое праводзіцца Белстатам.

| сума, якой валодае адзін член сям'і | колькасць сем'яў з адпаведным узроўнем даходу (у%) |
|---|---|
| да 900 тысяч рублёў | 35,1% |
| ад 900 тысяч да 1,5 млн. рублёў | 40,7% |
| ад 1,5 млн. рублей да 2 млн. рублёў | 13,6% |
| больш 2 млн. рублёў | 10,6% |

Дадзеныя апошняга выбарачнага абследавання (за трэці квартал), паказваюць, што больш за 35% беларускіх сем'яў маюць даход на аднаго члена сям'і да 900 тыс. рублёў.

У пачатку бягучага года беларускія сем'і маглі выдаткаваць на сваіх дамачадцаў значна больш грошай. Паводле даных выбарачнага абследавання хатніх гаспадарак, у першым квартале колькасць сем'яў са сярэднедушавым даходам да 100 даляраў (300 тыс. рублёў) складала па краіне толькі 1,9%! Многія сям'і ў пачатку года маглі выдаткаваць на кожнага дамачадца і 200, і 300, і нават 400 даляраў.

У трэцім квартале мы бачым іншую карціну. Самая вялікая група беларускіх сем'яў (40,7%) можа выдаткаваць на аднаго члена сям'і ад 900 да 1,5 млн. рублёў, гэта значыць у лепшым выпадку 180 даляраў.

У пачатку года найбольш шматлікай групай былі сем'і са сярэднедушавым даходам больш за 200 даляраў. Больш за палову (50,6%) беларускіх сем'яў маглі выдаткаваць ў першым квартале на кожнага дамачадца ад 200 да 400 даляраў.

Увогуле, тэндэнцыя не радуе. Магчыма, у пачатку 2012-га сітуацыя з дабрабытам насельніцтва некалькі палепшыцца. Беларускія ўлады раней заяўлялі, што маюць намер у бліжэйшы час пайсці на павышэнне заробкаў. Ходзяць упартыя чуткі, што стаўка першага разраду, да якой прывязаныя зарплаты бюджэтнікаў, у пачатку наступнага года можа павялічыцца з цяперашніх 151 тыс. да 200 тыс. рублёў. Галоўнае, каб рост заробкаў, як гэта бывае ў нас, зноў не справакаваў рост коштаў.

**На што беларускім сем'ям хапае грошай**

Міністр эканомікі Мікалай Снапкоў калісьці ў гэтым годзе заўважыў, што не варта вымяраць беларускія заробкі ў доларах. «Казаць аб зніжэнні заработнай платы ў доларавым эквіваленце некарэктна. У нас даляр не з'яўляецца валютай плацяжу ў крамах і валютай плацяжу за камунальныя паслугі », - падкрэсліваў летам гэтага года міністр эканомікі.

Сапраўды, цэны ў беларускіх крамах указаны не ў доларах, а ў рублях. Аднак нават супастаўленне заробкаў з рублёвымі коштамі ў крамах кажа аб тым, што пакупная здольнасць беларускіх сем'яў за гэты год рэзка знізілася.

Мы паказалі вышэй, што прыкладна трацiна беларускіх сем'яў маглі выдаткаваць у трэцім квартале на сваіх дамачадцаў у месяц не больш за 900 тыс. рублёў. Прапануем параўнаць, што на гэтыя грошы можна было купіць у студзені гэтага года і ў верасні (табл.2).

| тавар | колькасць тавару (кг), якое можна было купіць у студзені | колькасць тавару (кг), якое можна было купіць у верасні |
|---|---|---|
| тварог | 97,9 | 65,6 |
| макаронные вырабы | 285 | 147,1 |
| жывёльны алей | 46,2 | 29,5 |
| рыс | 191,4 | 76 |
| рыба мароженая | 123,6 | 42,3 |
| тушкі курэй | 100,5 | 44,1 |
| яблыкі | 226,1 | 132,8 |

**Кошт мінімальнага набору прадуктаў харчавання, па дадзеных Белстата, павялічыўся ў студзені-верасні ў 1,8 разы.**

Так што, як бачым, нават калі забыцца пра даляры, «які ў нас не з'яўляецца валютай плацяжу», у рублях пакупніцкая здольнасць беларускіх сем'яў таксама прыкметна ўпала. Хочацца, аднак, спадзявацца, што матэрыяльныя магчымасці беларусаў усё ж такі вырастуць. Таму што наўрад ці краіну, дзе людзі жывуць на 100 даляраў у месяц, можна называць «моцнай і квітнеючай».

* Разлікі на аснове сярэдніх цэн Белстата.

**Дзмітрый Заяц,**
**БЕЛАПАН.**

ПАМЯЦІ ВАЦЛАВА ГАВЭЛА

# «СІЛА БЯССІЛЬНЫХ»

ПА ЎСХОДНЯЙ ЕЎРОПЕ БЛУКАЕ ПРЫВІД, ЯКІ НА ЗАХАДЗЕ НАЗЫВАЮЦЬ «ДЫСІДЭНЦТВА».

Гэты прывід - не спараджэнне нябёсаў. Ён арганічна ўласцівы сістэме, якая ў цяперашняй фазе свайго гістарычнага развіцця ўжо даўно не абапіраецца, а па шэрагу прычын і не можа абапірацца, на непрыкрытае і жорсткае беззаконне ўлады, якое выключае любыя праявы нонканфармізму. А з іншага боку, гэтая сістэма настолькі палітычна інэртныя, што фактычна не дапускае ніякага пратэсту ў сваіх афіцыйных структурах.

Хто ж, уласна, яны, гэтыя так званыя «дысыдэнты»? На чым заснавана іх пазіцыя і ў чым яе сутнасць? У чым сутнасць «незалежных ініцыятываў», якія аб'ядноўваюць дысідэнтаў, і наколькі рэальныя шанцы ў гэтых ініцыятываў? Ці дарэчы ўжываць у дачыненні да іх дзейнасці панясце «апазіцыя»? Калі так, то чым, уласна, такая «апазіцыя» - у рамках гэтай сістэмы - з'яўляецца, якім чынам дзейнічае, якую ролю ў грамадстве гуляе, на што спадзяецца і на што можа спадзявацца? Ці пад сілу наогул дысідэнтам - як людзям, якія знаходзяцца па-за ўсякімі ўладнымі структурамі ў становішчы свайго роду «паўграмадзян», - якім-небудзь чынам уплываць на грамадства і грамадскую сістэму? Ці могуць яны наогул што-небудзь змяніць?

(...)

Між інтэнцыямі посттаталітарнай сістэмы і інтэнцыямі жыцця прасціраецца прорва: у той час, як жыццё арганічна імкнецца да плюралізму і шматкаляровасці, да незалежнасці самавызначэння і самаарганізацыі, карацей кажучы, да рэалізацыі сваёй волі, посттаталітарнага сістэма, наадварот, патрабуе маналітнасці, аднастайнасці, дысцыпліны, у той час, як жыццё імкнецца стварaць усе новыя і новыя неверагодныя «структуры», посттаталітарнага сістэма навязвае ёй «самыя неверагодныя станы».

Лёгка ўявіць сабе грамадства, якое мае добрыя законы, у якім гэтыя законы выконваюцца цалкам і ў якім пры гэтым немагчыма жыць. І можна, наадварот, прадставіць цалкам цярпімае жыццё пры недасканалых або калі недасканала прымяняюцца законы. У выніку галоўнае ў тым, якое само жыццё і служаць яму законы ці ж яны яго душаць, а ні ў якім выпадку не ў тым, ці выконваюцца яны ці не (у рэшце рэшт, часта іх літаральнае выкананне можа стаць для годнага жыцця самай вялікай катастрофай).

Ключы да чалавечага, годнага, забяспечанага і шчаслівага жыцця не захоўваюцца ў канстытуцыі або ў крымінальным законе: тыя толькі рэгламентуюць, што можна і чаго нельга, тым самым жыццё палягчаючы або ўскладняючы, абмяжоўваючы ці не абмяжоўваючы, караюць, прынараўліваюцца або захоўваюць яго, але ніколі не напаўняюць яе зместам і сэнсам.

Улада знаходзіцца ў палоне ва ўласнай хлусні, таму і звяртаецца да фальшу. Фальсіфікуе мінулае. Фальсіфікуе сучаснасць і фальсіфікуе будучыню. Падтасоўваюць статыстычныя дадзеныя. Робіць выгляд, быццам бы ў яе няма ўсёмагутнага і здольнага на ўсе паліцэйскага апарата. Прыкідваецца, што паважае правы чалавека. Прыкідваецца, што ні ў чым не прыкідваецца.

Чалавек не абавязаны ўсім гэтым містыфікацыям верыць. Аднак ён павінен паводзіць сябе так, нібы верыць ім; па меншай меры, моўчкі захоўваць талерантнасць ці хаця б быць у ладу з тымі, хто гэтыя містыфікацыі ажыццяўляе. Ужо хоць бы таму чалавек вымушаны жыць у хлусні. Ён не павінен прымаць хлусня. Дастаткова, што ён прыняў жыццё, якая неаддзельная ад хлусні і немагчымая па-за хлусні. Тым самым ён сцвярджае сістэму, рэалізуе яе, успрымае яе, з'яўляецца ёю.

**Вацлаў Гавэл, 1978 г.**

ПРАДПРЫМАЛЬНІЦТВА

# БЕЛАРУСКІ БІЗНЭС НЕ ВЕРЫЦЬ У СПРАВЯДЛІВУЮ АМНІСТЫЮ КАПІТАЛУ

УБЕЛАРУСІМОЖАБЫЦЬПРАВЕДЗЕНААМНІСТЫЯКАПІТАЛУ.ПАВОДЛЕІНФАРМАЦЫІНАМЕСНІКАДЫРЭКТАРА ЦЭНТРА АБАРОНЫ ПРАВОЎ УЛАСНАСЦІ РЭСПУБЛІКАНСКАЙ КАНФЕДЭРАЦЫІ ПРАДПРЫМАЛЬНІЦТВА ІГАРА ЛЕДНІКА, НА ДЗЯРЖАЎНЫМ УЗРОЎНІ ПАПЯРЭДНЕ ЎЖО ПРЫНЯТА ТАКОЕ РАШЭННЕ.

Аднак эксперты сумняюцца, што ўладам, якія б стымулюючыя меры яны ні прынялі, ці ўдасца легалізаваць вялікія аб'ёмы ценявых рэсурсаў. Хто ў разумным розуме купіцца на амністыю капіталу ў краіне, дзе не працуюць законы, дзе ва ўладзе сем пятніц на тыдні і дзе рашэнні могуць прымацца і адмяняцца заднім лікам?

Між іншым, ініцыятыва разгледзець пытанне аб правядзенні амністыі капіталу зыходзіць ад Аляксандра Лукашэнкі. Такое даручэнне прэзідэнт даў ураду і Нацбанку яшчэ 30 жніўня на нарадзе па пытаннях сацыяльна-эканамічнага развіцця краіны.

Пагадзіцца на правядзенне амністыі капіталу беларускія ўлады вымушаныя з-за вострага недахопу фінансавых рэсурсаў, і гэта відавочна. У сваім лісце ад 14 верасня на імя прэм'ер-міністра Міхаіла Мясніковіча гэта пацвярджае і кіраўнік Нацбанка Надзея Ермакова.

«У сітуацыі, якая ў цяперашні час напружанай сітуацыі ў фінансавай сферы і ў эканоміцы ў цэлым патрабуецца прыняцце дадатковых эфектыўных мер па стымуляванню прыцягнення ў законны эканамічны абарот фінансавых рэсурсаў, у тым ліку ценявых даходаў і капіталу. У сувязі з гэтым рэалізацыя комплексу мерапрыемстваў па легалізацыі даходаў і амністыі капіталу, мяркуем, вельмі актуальная », - гаворыцца ў лісце.

Пакрыць патрэбнасці ў фінансаванні дазваляюць прамыя замежныя інвестыцыі. Але іх прыцягненне ў сувязі з неспрыяльным інвестыцыйным кліматам ідзе туга. «У гэтым годзе планавалася прыцягнуць 6,5 млрд. даляраў прамых замежных інвестыцый. Па факце мы маем 3,8 млрд. даляраў з улікам продажу «Белтрансгаза». Пры гэтым у рэальны сектар эканомікі было накіравана толькі 770 млн. даляраў », - канстатуе Балточка.

Сітуацыю з інвестыцыямі ў асноўны капітал таксама нельга назваць паспяховай. Па факце за 10 месяцаў аб'ём інвестыцый вырас на 14,3% у параўнанні з паказчыкамі за аналагічны перыяд мінулага года. «Але рост адбыўся шмат у чым за кошт дэвальвацыі беларускага рубля», - звяртае ўвагу эксперт.

Шэраг фактараў паказваюць на тое, што ў Беларусі высокая патрэбнасць правесці амністыю капіталу. І бізнес-супольнасць падтрымлівае гэты крок. Па словах прадстаўніка дзелавых колаў Ігара Ледніка, амністыя разглядаецца перш за ўсё як інструмент павышэння эканамічнай бяспекі.

«З аднаго боку, за кошт атрыманых дадатковых падаткаў папаўняецца бюджэт, з другога - фінансавыя рэсурсы ўключаюцца ў эканамічны абарот, дапамагаючы ажыццяўляць мадэрнізацыю прадпрыемстваў і павышаць якасць вырабляемай прадукцыі», - адзначае эксперт.

Як падкрэслівае, у сваю чаргу, Антон Болточко, амніставаць ёсць што. «Яшчэ ў 2007 годзе Сусветны банк ацэньваў памер ценявой эканомікі ў Беларусі на ўзроўні 53% ВУП. Цяпер, я думаю, ён складае ўжо больш за 60%. Адтуль і трэба браць грошы, інакш ценявая эканоміка пачне кіраваць намі », - адзначае эканаміст.

Аднак у рамках існуючага заканадаўства правесці амністыю капіталу немагчыма, перакананы саветнік Міжнароднай фінансавай карпарацыі Валеры Фадзееў. «Калі прыняць заканадаўчы акт аб амністыі капіталу, але пры гэтым нічога не памяняць у дзеючым заканадаўстве, мы не даб'емся поспеху», - перакананы эксперт.

Сябра ініцыятыўнай групы па стварэнні «Цэнтра права ЕЗ і праваавога развіцця» Максім Корлюк адзначае і яшчэ адзін важны фактар. Насельніцтву і бізнэсу трэба перш за ўсё гарантаваць ананімнасць, а таксама даць гарантыі невыкарыстання вынікаў амністыі на шкоду бізнэсу. Па словах эксперта, такія гарантыі ў сукупнасці з іншымі фактарамі дазволілі шэрагу еўрапейскіх краін паспяхова правесці амністыю капіталу.

Так, напрыклад, Бельгія ў свой час за кошт амністыі капіталу фізічных асоб легалізавала 5,6 млрд. еўра, пры гэтым бюджэт паступіла каля 500 млн. еўра. Партугалія ў 2005 годзе такім чынам вярнула ў краіну 43,5 млрд. еўра.

Аднак што б ні вырашылі наверсе, праблема ў тым, што ў Беларусі гэты нумар не пройдзе. Насельніцтва і бізнес ўжо настолькі не давяраюць уладзе, што ніякія запэўніванні ня пераканаюць вывесці капітал з ценю. Ужо не раз, абвясціўшы эканамічную лібералізацыю, улады давалі задні ход, і наіўныя прадпрымальнікі жорстка пакутавалі. Так, улады ўводзілі, а потым раптам адмянялі мараторый на праверкі, ўводзілі свабоднае цэнаўтварэнне, а потым каралі бізнэс за рост коштаў і змушалі адкручваць кошты назад. З амністыяй капіталу будзе тое ж самае, перакананыя эксперты. Капітал амністуюць, а ўладальнікаў гэтага капіталу потым пасадзяць, прычым з канфіскацыяй - і такі сцэнар выключаць нельга.

**Андрэй Кажамякін, БЕЛАПАН.**

ПРАЦОЎНАЯ ЭМІГРАЦЫЯ

# БЕЛОРУСАМ НУЖНЫ НОРМАЛЬНЫЕ ЗАРПЛАТЫ, А НЕ ПОСЛЕДНИЕ КОПЕЙКИ ИЗ БЮДЖЕТА

АЛЕКСАНДР ЛУКАШЕНКО НЕ СКЛОНЕН ПРЕУВЕЛИЧИВАТЬ ПРОБЛЕМУ ЭМИГРАЦИИ ИЗ БЕЛАРУСИ КВАЛИФИЦИРОВАННОЙ РАБОЧЕЙ СИЛЫ. ОДНАКО СПЕЦИАЛИСТЫ МАССОВО ПОКИДАЮТ БЕЛАРУСЬ.

На пресс-конференции 23 декабря официальный лидер рассказал о своем видении закрепления кадров в Беларуси. «Надо создавать выгодные условия для работы дома», — сказал глава государства.

Вместе с тем он подчеркнул, что «не склонен демонизировать проблему». Ведь человек ищет, где, лучше, как рыба — где глубже. «Одно дело работать в Беларуси за одну тысячу долларов, другое — в Москве за две тысячи», — заметил Лукашенко, пояснив, что если жить семье за одну тысячу долларов в Беларуси, это то же самое, что в Москве за две тысячи долларов.

«Можно жить на воде, на кусочке хлеба, но работать тогда каменщиком будет сложно, плитку укладывать и так далее», — отметил Лукашенко. Он подчеркнул, что жизнь в Москве сопряжена с риском и вспомнил недавний случай, когда шестеро белорусов в Москве погибли в пожаре. Гастарбайтеры жили в строительных бытовках. Понятно, что люди оказались в таких условиях, чтобы сэкономить на жилье и заработать в разы больше, чем могли бы в Беларуси.

### Из Беларуси бегут не от зарплаты в тысячу долларов

В Беларуси в ноябре по сравнению с октябрем 2011 года реальная зарплата (рассчитанная с учетом роста потребительских цен на товары и услуги) уменьшилась на 2,7%. Номинальная начисленная среднемесячная зарплата в январе-ноябре 2011 года составила 1 млн. 840,2 тыс. рублей (около 220 долларов), в том числе в ноябре — 2 млн. 439,7 тыс. (около 290 долларов) и по сравнению с октябрем 2011 года увеличилась на 5,2%, или на 121,7 тыс. рублей.

На промышленных предприятиях средняя зарплата в ноябре этого года составила 2 млн. 877,1 тыс. рублей. В частности, в строительных организациях — 2 млн. 661,8 тыс., в организациях транспорта и связи — 2 млн. 702,9 тыс., сельского хозяйства, охоты и лесного хозяйства — 1 млн. 681,8 тыс. рублей.

Максимальный размер средней зарплаты в ноябре по отдельным отраслям был зафиксирован в сфере финансовой деятельности — 4 млн. 148 тыс. рублей, минимальный — у работников сельского хозяйства, охоты и лесного хозяйства (1 млн. 682 тыс.).

В тоже время, в промышленности Московской области, где нашли себе применение немало белорусов, уровень средней зарплаты составляет почти 30 тысяч российских рублей, то есть около тысячи долларов.

Таким образом, очевидно, что в Россию белорусы, те же строители, бегут не с тысячедолларовых зарплат, а за ними.

Как считает Лукашенко, заработная плата должна расти, но только тогда, когда она будет заработана. «Если мы говорим о повышении зарплат, пенсий — и мы это делали несколько раз в этом году — мы не использовали эмиссионные деньги. Мы повышаем сегодня заработную плату, хоть понемножку, — я это обещал людям — пенсии, пособии и прочее только тогда, когда у нас есть деньги. Есть в бюджете деньги — последнюю копейку отдадим людям», — сказал Лукашенко. Однако, по его словам, «печатать деньги и платить людям нельзя, ибо это инфляция».

Читать полностью: http://naviny.by/

**Елена СПАСЮК, БЕЛАПАН.**

ШЛЯХ УЛАДАЎ

# КИТАЙСКИЕ «ЖИГУЛИ» – МЕЧТА ЛУКАШЕНКО И СЕМАШКО?

ВЛАСТИ УПОРНО НЕ ОСТАВЛЯЮТ ПОПЫТОК ПЕРЕСАДИТЬ БЕЛОРУСОВ НА ДЕШЕВЫЕ (ВО ВСЕХ СМЫСЛАХ) КИТАЙСКИЕ АВТО. НА ПЯТНИЧНОЙ ПРЕСС-КОНФЕРЕНЦИИ ВСЕХ ОШАРАШИЛ ВИЦЕ-ПРЕМЬЕР ВЛАДИМИР СЕМАШКО: УЖЕ ПОДПИСАН ДОГОВОР О СОЗДАНИИ СП С КОМПАНИЕЙ LIFAN. «САЛІДАРНАСЦЬ» ПРИСМОТРЕЛАСЬ К «ЧУДУ» КИТАЙСКОГО АВТОПРОМА.

– Сегодня министр промышленности доложил мне о том, что завершились переговоры и подписаны документы с китайской компанией Lifan о создании в Борисове совместного предприятия легковых автомобилей с максимальной перспективой локализации, — рассказал 23 декабря первый заместитель премьер-министра Владимир Семашко, сообщает БЕЛТА. — Учредителями с белорусской стороны выступят БАТЭ и БелАЗ.

– Привлекая сюда крупную корпорацию, мы говорим: ребята, приходите, мы вам создадим лучшие условия, лучше, чем у соседей, — отметил Александр Лукашенко.

Между тем, инициатива белорусских властей по производству китайских автомобилей не может не настораживать. Во-первых, еще долго не забудется почти анекдотичная история с выпуском в Беларуси «Самандов». Тот же Владимир Семашко в начале года сообщил, что за 5 лет работы иранцы произвели и продали только около тысячи автомобилей – цена на устаревшую модель оказалась неоправданно высокой. Вице-премьер пообещал сотрудничество с иранцами разорвать.

Во-вторых, автомобили Lifan уже с 2008 года собираются на заводе в Карачаево-Черкессии. Производственная мощность предприятия – 50 тысяч авто в год и она далеко не освоена: за первое полугодие в России продано лишь около 7500 автомобилей, сообщает lifan-car.ru. Можно лишь догадываться, зачем белорусским властям создавать в Таможенном союзе второй завод по выпуску непопулярных авто. В-третьих, качество китайских авто, мягко говоря, далеко от совершенства. Рассмотрим две самые популярные модели Lifan, производящееся в России, – Lifan Solano и Lifan Smily.

Седан Lifan Solano внешне похож на Toyota Corolla начала 2000-х годов. Двигатель 1,6 литра с 109 лошадками слабоват и «в гору идет очень неохотно», пишет издание «За рулем». Есть и множество и других проблем: слабая шумоизоляция, неудобные сиденья, двери закрываются лишь с сильного размаха и т.д. Цена – 390 тысяч российских рублей (12,5 тыс. долларов).

Хэтчбек Lifan Smily (грубоватая копия Mini Cooper) удивляет еще больше. Длина малолитражки ультрабюджетного класса (в России она стала производиться лишь в этом году) – 3,7 м, ширина – 1,6 м. Мотор 1,3 л мощностью 89 л. с. разгоняет авто до 100 км/час аж за 14,5 секунды, пишет kp-avto.ru. И, конечно, множество других проблем: шум в салоне после 100 км/ч превращается в вой, высоким людям внутри сидеть неудобно и т.д. Участвовавший в тест-драйве журналист издания «За рулем» поделился с читателями: «Когда ко мне подсел достаточно весовый коллега, «Смайлик» скис. Когда на абсолютно ровной дороге при утопленной в пол педали газа скорость падает от встречного ветра – это нонсенс». Выводы других изданий также неутешительны: «Жигули» с той же загрузкой едут быстрее, если Lifan Smily и способен стать для кого-либо находкой, то только «для небогатого обитателя глубинки». Цена авто – 260 тысяч российских рублей (8,3 тыс. долларов).

Остается пожелать господам Лукашенко и Семашко в полной мере насладиться достоинствами Lifan, лично пересев с продукции западного автопрома на китайские «Жигули».

**Николай Чернявский.**

**Заснавальнік:** Салодкі Сяргей Аляксандравіч
**Рэдактар:** Шчамлёў Аляксандр Міхайлавіч
**Адрас рэдакцыі:** 211262, Шумілінскі раён, п/а Амбросавічы.
Тэл. 3-73-74, маб. +375299870742
**Падпісана да друку 28.12.2011 у 18.30.**
Наклад: 290 асобнікаў.
Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца з дапамогай аднадумцаў.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.